і ў дыхальным горле. У лёгкіх бываюць крупінкі вялічынёй просавага зярняці, кругом счырванеўшыя; большыя крупіны (вузельчыкі) бываюць акружаныя шэрай павалокай. Далей, спатыкаем тут размякшыя логвы з грубымі, быццам мазолістымі сьценамі (г. зв. кавэрны сапу) і тугія, мазолістыя, вялічынёй з гарэх, а нават і з дзіцячую галаву наросты (шышакі). Калі сап абхапіў лёгкія, тады гручолы гарляныя і лёгачныя заўсяды бываюць набракшымі. Логвы сапу могуць таксама быць у селязёнцы, у печані, у нырках, у сэрцы, у плоцявых органах і ў касьцях. Пры вострым сапе, акрамя шматлікіх вузьлікаў і верадаў, бываюць таксама зачырванелыя мясцы ў лёгкіх, пры чым шчалугі выпаўнены адмёршай тканьню і загноіўшайся матэрыяй; калі-ж логвы сапу сягаюць аж на паверх лёгкіх, дык захопленай бывае так жа лёгачная павалока і пакрыта адлучальнымі (аддзіраючыміся) кускамі павалокі і адкрытымі ранамі.

**Што рабіць калі акажыцца хвароба.**

Калі хто заўважыць самую хваробу сапу або ейныя адзнакі ў коняў жывых або ў паўшых, павінен аб гэтым зараз-жа паведаміць вэтэрынарную паліцыю. Гаспадар захварэўшай жывёлы мусіць сам аддзяліць хворую жывёлу ад здаровай, старанна закопываць падлу і прыбіраць усё, чым можа быць перанесена зараза. Зьдзіраць скуру з падлы забаронена; ня можна таксама хворых, ані нават падазроных у хваробе зьвярат забіваць (рэзаць). Асоба, якая даглядае хворую жывёлу, ня сьмее даглядаць іншую жывёлу, здаровую і ня сьмее спаць у стайні разам з хворай жывёлай. Да дагляду хворых ці толькі падозраных жывёлаў ня сьмее быць ужытай асоба, якая мае параненыя рукі ці іншыя непакрытыя часьці цела.

**Сап у людзей.**

Калі выдзяліны хворай жывёлы праз няўвагу ці праз нядбальства дастануцца чалавеку на нейкую рану, на сьлізьніцу носа, роту або ў вока, дык ад гэтага чалавек можа заразіцца на сап. Хвароба праяўляецца ўжо на 3-ці ці на 5-ты дзень і пазнаецца па тым, што кругом заражанага месца і найбліжэйшых жылаў і гручолаў лімфатычных зьяўляецца пухліна. Дзеля гэтага пры даглядзе жывёлы хворай на сап і падозранай трэба быць вельмі асьцярожным. Калі-б міма ўсяго аднак чалавек заразіўся сапам, дык як толькі можна скарэй трэба шукаць помачы лекарскай. Нажаль, аднак навука дагэтуль ня знае пэўнага леку ад сапу і гэткае заражэньне найчасьцей канчыцца ўжо сьмерцю. Дык тым уважней трэба абхадзіцца з хворай жывёлай і нічога не памінаць, што толькі можа ўсьцерагчы чалавека ад заразы.

**Др. Ю. З.**

# Як скармліваць бульбу.

Бульбу можна скармліваць сырую, вараную, параную або сушаную. У захадніх краёх Эўропы ёсьць нават вялікія фабрычныя сушарні на бульбу і бульбяная мука даволі добра плаціцца. Калі хочам мець добрыя вынікі з кармленьня бульбаю, дык мусім уважаць, каб дзенная порцыя ня была за вялікая, бо яна для кожнага роду жывёлы іншая.

Асабліва пры кармленьні кароваў сырою бульбаю трэба ўважаць на порцыі. Сырая бульба мае ў сабе вострыя складнікі (аміды і амідовыя кіслоты), якія ў меншых порцыях карысна ўплываюць на трыбух і ўвесь кармовы апарат, але затое ў большай дзеннай порцыі ўплываюць шкадліва. Таксама праросшая бульба мае шкадлівыя сучасткі, якія пры большых порцыях бульбы шкодзяць асабліва цельным каровам. Дзеля таго праросшыя бульбіны трэба адбіраць. Сырой бульбы можна даваць дойным каровам 10 - 15 кілё ў дзень; большыя порцыі псуюць якасьць малака і масла. Каровы найлепш травяць бульбу абмытую і дробна пакроеную; каб з сечанай бульбы не марнаваўся сок, трэба яе мяшаць з сечкаю. Смачней ядуць каровы бульбу цэлую, а каб пры гэтым не давіліся, трэба ўважаць, каб суседнія каровы не дасягалі да іх і не дражнілі, бо тады такая карова сьпяшаецца і можа ўдавіцца. Варанай бульбы можна даваць карове 20—30 кілё ў дзень; аднак што да страўнага бялка, дык вараная бульба менш вартасная, бо пры варэньні бялок зварваецца і становіцца менш страўным.

Сьвіні лепш травяць бульбу вараную, або параную чым сырую і варанай бульбы можна даваць ім да насычэньня. — Коням ня вольна даваць бульбы больш як 4—6 кілё ў дзень, і то — варанай; пры большай порцыі коні скора мучацца, пацеюць, трацяць вытрываласьць і сілу. Часам радзяць даваць коням і сырую бульбу, 1—2 кілё ў дзень, як сродак на прачышчэньне.

Пры гадаваньні хатняй жывёлы на жыр, прыгодная найлепш бульба вараная, бо такая найлепш выкарыстоўваецца.

**Інж. О. Я.**

# Аб зімовым гнязьдзе для пчолаў.

Улетку пчолы займаюць цэлы вулей. На зімку аднак, прачуваючы зімно, яны зьбіраюцца бліжэй сябе, сядаючы ў форме аднаго суцэльнага, рухомага клубка. Месца, дзе гэтак пчолы зьбіраюцца на зіму, называем гняздом, якое закладаецца больш-менш пасярэдзіне вульля, насупроць лёткі, каб быў лягчэйшы доступ вольнага, чыстага паветра. Зьбіраючыся зімаваць, пчолы аднак памятаюць ня толькі аб забесьпячэньні сябе ад сьцюжы, — яны памятаюць і аб забясьпечаньні сябе ад голаду. Інакш кажучы, пчалінае гняздо на зіму гэта ня толькі больш ці менш выгодная адпачывальня, але і добра абдуманая кладоўка (сьпіжарня); гэта апошняе вельмі важнае, бо пчолы маюць асаблівую натуру і — як гэта пабачым далей — могуць згінуць ад голаду ня толькі тады, калі ў вульлі няма запасаў мёду, але нават тады, калі гэтага мёду поўны вулей, ды ён толькі неадпаведна ўложаны.

Вось што пішыцца аб гэтым у „Ziemlarobskaj čytancy:"

„Прынята рахаваць, што ў плястры з рамкі Дадан'а ёсьць у сярэднім 2 кл. (5 фунтаў) мёду. Знача, цэлая зімовая порцыя мёду мусіць мясьціцца ў 7-ох плястрох і з гэтулькіх, найменш, плястроў трэба будаваць г. зв. зімовае гняздо для пчолаў. Пчолы з наступленьнем халадоў не сядзяць паразьлязаўшыся па ўсіх плястрох, але зьбіраюцца ўдоле плястроў, творачы гэтак званы зімавальны клубок.

Гэты пачаткавы клубок не завязваецца на залітых мёдам і зашытых мяйсцох пляcтра, але толькі на сушы. Шукаючы корм пчаліны клубок ступянёва пасуваецца толькі ўверх і нязодльны пасувацца ўніз. І калі-б так нават здарылася, што плястровая суш была ня ўнізе плястра, а ўсярэдзіне, ці нават зьверху, дык пчолы, асеўшы клубком на гэтай сушы, усяроўна пасуваліся-б толькі ўверх; а не знашоўшы там мёду,—адміралі-б з голаду нават тады,калі-б удол ад сушы плястры былі поўныя найлепшага мёду. Згэтуль навука, што на закладаньне зімовага пчалінага гнязда трэба выбіраць плястры з зашытым мёдам уверсе і з сушай — унізе. Дольныя краі плястроў мусяць быць усе на аднэй вышыні бо ў праціўным разе зімавальны клубок завязываўся-б на вышыні найвышэйшага плястру, а рэшта марнавалася б.

Важным ёсьць таксама і разьмер зімовага гнязда. бо ў малым гняздзе пчолы маглі-б задушыцца. Але да гэтага трэба ўжо здольнасьці вычуваньня, якая здабываецца практыкай і якой ані словам, ані пісьмом здабыць нельга."

Хто больш цікаеіцца гэтай справай, знойдзе адказ у названай ужо „Ziemlarobskaj Čytancy" č. I. А. К.

# Кармленьне пчолаў.

Месяц жнівень гэта — з малымі выняткамі (верас) — канец пчалінай пашы; пчаляр мусіць прагледзіць паадзіночныя пні і запасы дапоўніць. Хоць цэлая справа здаецца надта-ж ужо простай і зразумелай, патрабуе шмат увагі. Блізу ўсе неарганізаваныя пчаляры проста спадзяюцца на тое, што запасаў мёду па лазьбінах (адбіраньні мёду) на зіму хопіць. Трэба аднак рахавацца з тым, што належна зазімаваная пчаліная сям'я мусіць мець найменш 12, лепш 14—15 кілё мёду ў запасе. Павінна быць правілам, што надвыжка мёду ніколі з вульля ня згубіцца — выкарыстаецца ў годзе наступным. На жаль аднак і ў пчаляроў арганізаваных, могучых праз свае арганізацыі даставаць неападаткаваны цукар, спатыкаюцца часта грубыя абмылкі... Трэба перадусім ведаць, што расьцеча цукру (сыроп), або разьведзены мёд мусіць выпарыцца або дасьпець да таго часу, пакуль пчолы саб'юцца ў клубок, каб маглі гэты корм яшчэ зашыць (заскляпіць). Бо калі корм падаецца за позна і пчолы не пасьпяваюць яго зашыць, тады цукар хутка кісьне, а гэта і бывае аднэй з прычын благога перазімаваньня. Падкормліваньнем пчол увосені апрача таго павялічваецца йшчэ лік тых маладых пчолак, каторыя могуць перазімаваць, г. знача такіх, якія йшчэ выклюнуцца ў пару, калі можна йшчэ будзе вылецець на аблёт. Гэтым самым запэўніваецца сіла вульля на вясну. Пачынаць падкармліваць трэба ўжо ў другой палове м-ца жніўня. Часам гэткае падкармліваньне пачынаецца ўжо ў першым тыдні м-ца жніўня: даецца што тыдзень па 1/8 літра разьведзенага мёду і гэтым прымушаецца матка да складаньня яечак, з каторых і выйдуць тыя маладыя пчолкі, што будуць зімаваць.

Перш чым падкармліваць пчолы, трэба прагледзіць паадзіночныя пні, колькі ў кожным з іх ёсьць мёду ў запасе. Запасы ў гняздзе пакідаюцца, выбіраюцца толькі задьнія рамкі, каб на іх месца пасьля залажыць падушкі на зімаваньне. Пчаляра цікавіць таксама пытаньне, як перазімуюць пчолы на самым толькі мёдзе або на самым толькі цукры. Мёд канешна патрэбны для пчол пачынаючы ад месяца лютага, калі матка пачынае класьці яечкі, бо ў мёдзе, таксама як і ў пылку, знаходзяцца спажывы і наагул матэрыялы канешныя для пчалінага арганізму. З другога ўзноў боку цукар ёсьць вельмі добрым сродкам дзеля самага перазімаваньня. Дзеля гэтага найлепш даваць на зіму пчолам запасы на палову з мёду і на палову з цукру. Пры благой пагодзе, калі збор мёду ня хопіць і на гэтулькі, ягонае мноства бяз шкоды можна абніжыць да 3—4 кілё. Пры пераглядзе пчол практычны пчаляр лёгка пазнае, паводле лічбы і вагі рамак, колькі трэба дадаць цукру, каб дачакаць паловы

м-ца траўня (мая). Яшчэ раз трэба прыпомніць, што ашчаднасьць у гэту пару звычайна вельмі дорага абходзіцца... Лепш заўсёды пэўнасьць як дагадка, што можа вясна прыйдзе ў нармальны час і пчолы назьбіраюць сабе ў пару мёду сьвежага.

Дальшым канешным варункам ёсьць, каб кармленьне абавязкава пачыналася ўвечары, бо калі наліваць і падаваць корм днём, дык пры гэтым звычайна заманіваюцца ў вулей пчолы чужыя і прызвычайваюцца да зладзейства. Гэта тымбольш, што ў гэту пару няма ўжо звычайнай натуральнай пашы для пчол і яны бяруць што толькі дзе знайдуць. Каб да гэткай крадзежы пчол ня прывучаць, трэба падаваць ім корм ужо за шэра і ў такім мностве, каб да раніцы, калі лётная пчала вылятае ў поле, уся порцыя была ўжо выссана. Лішне было-б высьцерагаць, каб падаючы корм ані поўкаплі яго не разьліць каля вулля, бо гэта таксама прывучае пчол да крадзежы.

У практыцы вельмі добрымі аказаліся порцыі па 3—4 літры для слабейшых семяў, або калі зімныя ночы, па два літры, такшто пры выстарчальным падаваньні падкармліваньне можна кончыць за тыдзень. Канешным ёсьць так жа, каб у судзіну падаваную з разьведзеным цукрам, замест практыкаваных у нас саломінак, укладаліся дзераўляныя дзюркаваныя кладачкі, пры каторых няма небясьпекі, што пчала ўтопіцца: а пры саламяных кладках гэта бывае на парадку дзенным.

Уважна таксама трэба прыгатаўляць і сам сыроп цукру. Ня можна рабіць гэткага сыропу за густым, бо ён хутка крысталізуецца і на вясну, калі пчолы ня могуць хутка вылецець па ваду, можа такі корм вельмі зашкодзіць. Ня менш шкодным можа аказацца і сыроп за рэдкі, асабліва тады, калі кормім за позна, бо хутка кісьне. Найлепш зробім, калі дадзём на 1 літр вады 1 кілё цукру, лёгка заварым зьбіраючы, пры гэтым з верху пену, а пасьля, прад тым як завараны сыроп зусім астыне, дададзём на 1 літр па каплі соку з цытрыны або сярэдняга раствору цытрынавай кіслаты. Дадатак цытрынавай кіслаты патрэбны на тое, каб аблегчыць перамену знаходзячайся ў звычайным цукры сахарозы, у даступныя для пчол цукры простыя: глюкозу і фруктозу.

Пасьля накармленьня за 2—3 тыдні праглядзём пчолы ўзноў, каб праканацца, ці добра запасы разложаныя. Бывае ня раз, што рой хоць меў вялікі запас мёду, адмёр з голаду. Чаму? — бо рамка запоўненая мёдам не пазваляла пчолам перайсьці на другую рамку. Гэткую небясьпеку лёгка цяпер можна абмінуць, калі пералажыць запоўненую рамку.

**Ш—к.**

# Заквашываньне агуркоў.

*(Спосаб украінскі).*

Агародніна і садовіна проста неабходныя для людзкога здароўя. Дык як найбольш павінны мы іх ужываць.

Тут хачу падаць спосаб заквашываньня агуркоў пад Львовам.

**Уступныя працы:** Важнай справай ёсьць выбар бочкі на агуркі. Найлепшыя для гэтай мэты гэта бочкі ад віна, агуркоў або ад селядцоў (гэтыя маюць быць найлепшыя). Перад усім трэба бочку абгледзіць, ці не працякае; калі так, дык яе трэба выцэмэнтаваць. Пасьля такая бочка вымываецца спачатку летняй вадой, а пасьля гарачай, ставіцца на сонечным правеўным мейсцы, каб высахла (але каб не рассохлася).

Квасіць агуркі можна толькі сьвежыя, незавялыя, таму выбіраць іх трэба ў дзень заквашываньня. Калі-б з нейкіх прычын ня можна было іх таго самага дня заквасіць, тады трэба іх заліць зімнаю вадою і паставіць у сьцюдзёным месцы. Да квашэньня бяром агуркі сярэдняй вялікасьці, зялёныя і зусім здаровыя, непашкоджаныя. Найлепш надаюцца да квашэньня тыя сарты агуркоў, якія маюць шмат цукру, а гэта дзеля таго, што цукар зьяўляецца галоўным складнікам, які зьмяняецца пры фэрмэнтацыі (квашэньню). Дробнатворы замяняюць пры гэтым цукар на малочны ксвас.

**Квашэньне.** Дно бочкі пакрываецца лісьцём хрэну, некалькімі калівамі кропу. Акрамя таго абчышчаюцца некалькі кускоў хрэну, вымываюцца, разразаюцца і кідаюцца на спод бочкі, на тое, каб расол быў чысты. Пасьля ўкладаюцца радамі чыста вымытыя агуркі. Што колькі радоў — даецца часнок. Расьціраць яго ня трэба, толькі галоўка двойчы перарэзываецца ўпоперак і так даецца ў бочку. Нічога больш, ні лісьця дубовага, ні вішнёвага не дадаецца.

Налажыўшы гэтак агуркоў блізу пад верх бочкі, заліваем іх чыстай, сьвежай і зімнай (агуркі будуць цьвёрдыя) соленай вадой. Соль распускаецца ў другім начыньні (у вядры). Агуркі найлепш квасяцца тады, калі раствор солі бывае 4 5 проц., г. зн. на 100 літраў вады трэба даць 4—5 кілё солі Распусьціўшы соль —уліваюць яе ў бочку так, каб увесь раствор пакрыў зусім агуркі. Залітыя гэтак агуркі накрываюцца чыстым кружком і прыціскаюцца ня надта цяжкім каменем. Робіцца гэта на тое, каб раствор лягчэй ўпіваўся ў агуркі і каб утрудніць доступ паветра.

Ужо праз адзін дзень пачынаецца фэрмэнтацыя і салёны расол мутнее. На паверхні творыцца сіваватая павалока, а сам раствор квасьнее. Каб агуркі ня плесьнелі, кладзецца ў бочку крыха (10 грамаў) белай гарчыцы, завязанай ў чысты шматок.

# Што рабіць з памідораў.

З розных бакоў пішуць да нас, што сёлета быў даволі добры год на памідоры. Добрыя гэта вестка сама па сабе, а яшчэ лепшая дзеля таго, што наша вёска ўжо разумее вартасьць гародніны для людзкога здароўя, што раз больш яе садзіць. У тых-жа пісьмах у рэдакцыю чытачы нашы просяць падаць спосабы выкарыстаньня гэтых памідораў. Ахвотна выконываем гэту просьбу і падаём ніжэй некалькі радаў, прыдатных для нашых вясковых варункаў. Падробныя апісаньні прыгатаваньня памідораў як стравы пададзём нашым чытачом у найбліжэйшым часе. Рэд.

Карысьць з гадаваньня і спажываньня памідораў будзе тады толькі поўнай, калі гэтыя памідоры можна будзе ўжываць як страву праз цэлы год. На вялікі жаль дасьпяваньне памідораў на градах, а нават і ў інспэктах агранічана кароткім часам. Дзеля таго трэба старацца раз у год дасьпеўшыя і сабраныя памідоры так захаваць, каб іх можна было ўжываць праз цэлы год. Робіцца гэта пры помачы гэтак званага консэрваваньня памідораў, або і звычайным сушэньнем.

I. Консэрваваньнем можна захаваць лепшы тавар, апе і рабіць гэта крыху цяжэй. Да таго-ж пры консэрваваньні патрэбны звычайна дадаткі, на каторыя сягоньня ня кожны можа сабе пазволіць. Таму затрымаемся тут толькі на консэрваваньні ў соленай вадзе. Ужываюцца да гэтага памідоры сусім сьпелыя, але йшчэ цьвёрдыя, драбнейшыя, рэгулярнай формы. Гэтак выбраныя памідоры абмываюцца, абрываюцца ім шпянькі і ўкладаюцца роўнымі пластамі ў шкляныя слоікі, або ў звычайныя добра паліваныя гліняныя збаны, заліваюцца соленай вадой ($^1/_2$ кілё солі на 10 літраў мяккай п е р а в а р а н а й вады), шчыльна абвязваюцца пэргамінавай паперай, або чыста прыгатаваным пузыром і стэрылізуюцца. Справа стэрылізацыі ў гаспадарскіх варунках гэта „вялікі хлопат." Збанкі, у каторых панакладана да консэрваваньня па 1 кілё памідораў, устаўляюцца аж па роўна абвязкі ў кіпячую ваду і варацца 20 мінут. А пасьля такія перастэрылізаваныя слоікі састаўляюцца ў сухі, сьцюдзёны, але не марозьлівы склеп і перахоўваецца. Паміж абвязкай і заліўным сосам не павінна быць больш вольнага прастору, як 1 сантымэтр. Усе памідоры павінны быць у сосе, а каб яны ня выплывалі, іх трэба папрыціскаць чыстай талеркай, ако дубовым дэнкам.

Прыгатаўляючы лепшыя памідоравыя кансэрвы трэба з памідораў зьняць скурку. Дзеля гэтага чыстыя памідоры кладуцца на рэшата і затопліваюцца на поўмінуты або і на адну мінуту ў кіпячай вадзе і пасьля зараз-жа ў вадзе сьцюдзёнай. Ад гэтага скурка на памідорах лопаецца і яе можна лёгка злупіць.

II. Іншы спосаб захаваньня памідораў гэта сушэньне, якое ўзноў перарабляе плады расьціраныя або разразаныя. Да сушэньня расьціраных пладоў прыгодны кожны памідор, сьпелы, перасьпелы, нават надапсуты, натуральна выбраўшы гэтыя сапсутыя часткі. Усё гэта прадусім ачышчаецца, абмываецца, расьціраецца, выбіраюцца шпянькі і разварываюцца ў мядзяных пабеляных катлох ці рондлях, без дадаваньня вады, да тае пары, пакуль скурка не адлупіцца ад мякіша. Атрыманую масу працэджваюць праз кухоннае сіта і ўзноў вараць да гушчыні сьмятаны. Атрыманае пюрэ накладаюць як бліны роўным пластом на сіты, пакрытыя пэргамінавай паперай, якую прад тым лёгка змачываюць вогкай губкай. Гэтак разложаныя пласты сушацца ў тэмпэратуры 50—60$^0$Ц. Сушэньне кончана, калі ўся маса ссохлася ў роўную плітку, якая ня мае ўжо ў сабе вогкасьці. Пліткі гэтыя рэжацца на чатырохкутныя скрыначкі і гэтак ідуць на продаж. З 100 кілё сырых памідораў атрымоўваецца 5—6 кілё сушанага тавару. Перасушаны тавар крышыцца і цямнее; добры тавар мае колер цёмна-чырвоны.

III. Да сушэньня памідораў разрэзаных прыгодны толькі штукі добра высьпеленыя, або крыху недасьпеўшыя. Гэткія памідоры старанна ачышчаюцца, або нават здымаецца з іх скурка, як вышэй; буйнейшыя — разразаюцца 4—8 частак, меншыя — на палову, гарбатняй лыжачкай выбіраюцца зярняты, раскладаюцца на сітах пакрытых лазовай ці якой іншай пляцёнкай і сушацца спачатку пры 60$^0$ пасьля 70$^0$Ц., а пры канцы ўзноў ніжэйшай, каб не пачарнелі. Добры тавар трэба пры сушэньні некалькі разоў перакладаць.

З 100 кілёграмаў сырых памідораў атрымоўваюць 6—8 кілё памідораў сушаных.

Ц.

---

Да часу поўнага заквашаньня трымаюцца агуркі ў тэмпэратуры 15—18$^0$C, дзеля таго, што ў гэтай тэмпэратуры добра разьвіваюцца карысныя дробнатворы (бактэрыі), пасьля пераносяцца ў зімное месца, найлепш у лядоўню. Агуркі добра перахоўваюцца пры недаступнасьці паветра. Калі-ж да іх дастанецца паветра, тады колькасьць квасоў зьменшываецца і расол можа стацца звычайным лугам, а тады наступае хуткае гніцьцё (квас бароніць прад гніцьцём). Дзеля таго пры выбіраньні агуркоў ня трэба трымаць бочкі доўга адчыненай і трэба захоўваць якнайбольшую чыстату. Фаховыя квашэльнікі трымаюць квашаныя агуркі ў адумысловых сажалках або студнях, бо тут яны найлепш перахоўваюцца.

Інж. П. З.

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

**Паводка на Палесьсі.** З Палесься надходзяць чуткі аб катастрафальных насьледках сёлетняй вясьнянай сушы і летніх дажджоў. З вясны ўсё засушыла, а пасьля ўлетку праз 4 тыдні запарам пашлі дажджы, ад каторых пагніла ўся бульба; не ўцалела і іншая ярына. А што ўдалося неяк звязьці ў гумны, тое пазалівалі воды выступіўшых з beратоў рэк, так што прышлося ўсё перасушываць. Насельніцтву з абшараў занятых паводкай пагражае голад. Тымбольш што аб арганізаваньні нейкай помачы для пацярпеўшых дагэтуль нічагуткі ня чуваць, а ўся ўвага цэнтральных і мясцовых упадаў зьвернена на насьледкі паводкі ў Польшчы. Аб Палесьсі забыліся.

**У справе зачыненьня агранамічнага Аддзелу** пры Віленскім унівэрсытэце паднялася цэлая бура пратэстаў. Ці яны што памогуць — іншая рэч. Важна тут зазначыць толькі, што дагэтуль гэта справа ня вырашана, а сама забарона прыйманьня запісаў на першы курс абаснавана толькі на тэлефонічным загадзе з Варшавы.—З галасоў, забіраных у справе дальшага існаваньня гэтага Аддзелу пры Віленскім унівэрсытэце, выявілася не адна цікавасьць аб тым, хто і якія надзеі пакладае на гэту культуральную пляцоўку на нашых землях. Вось-жа мала, надта мала ўдалося пачуць у гэтай справе галасоў, якія ўважаюць загрожаную пляцоўку земляробскай навукі іменна як месца н а в у кі. Затое ўсюды амаль спатыкаць можна пагляд, што гэта „placówka kultury“ (каб-жаж толькі культуры) polskiej» і таму яе „трэба“ ратаваць, „трэба“ утрымаць. Адзін толькі голас адазваўся, што зачыненьне агранамічнага аддзелу, пасьля леташняга скасаваньня аддзелу фармацэўтыкі і цэлага раду катэдраў, гэта ня звычайнае і нявіннае „ашчаднасьцёвае“ стараньне, але гэта дальшае зьвяно ў кірунку павольнага, але сыстэматычнага скасаваньня ўсяго Унівэрсытэту ў Вільні. А ўсё гэта па тое, каб устрымаць прадукцыю мясцовых інтэлігенскіх сіл і каб на краёвым рынку працы даць месца сілам прывозным з Польшчы, а не мясцовым. — Ці так ёсьць у сапраўднасьці, мы беларусы сяньня ня ведаем, — ведаюць аб гэтым людзі, якія сядзяць „бліжэй аўтара.“ Мы сваё становішча да гэтай справы ўжо выказалі анагдай („Самапомач“ № 7—8) і да сказанага дададзём цяпер, што калі плацоўка празначаная для пашырэньня веды і навукі на нашых землях мае яшчэ іншыя, вышэй названыя мэты, ненавуковыя, дык сьлёзаў па гэткай „сьвятыні навукі“ мы праліваць ня будзем. Школу патрабуем, але гэта павінна быць сапраўды школа, а не экспозытура... палітычная. На заканчэньне зазначым яшчэ, што хочам школы, якая гадавала-б працаўнікоў для нашай вёскі, а ня чыноўнікаў для абшарніцкіх двароў.

**Рэформа ці абціраньне сьлёзаў?** Дня 1 жніўня міністр-прэм‘ер Казлоўскі сказаў у клюбе ББ прамову ў справе палепшаньня быту земляробскага сялянства. Паводле паведамленьня польскай прэсы, Міністр зазначыў, што будуць зьменшаны даўгі малазямельным земляробам, незалежна ад таго, хто і колькі вінаваты. З гэтай акцыі ўраду мелі б скарыстаць тыя з сялян, хто прад 1 ліпнем 1932 г. задоўжыўся ў казённых банках, бяручы там пазычкі на мэліорацыю, на запамогу ў выпадках пошасьці, або на справы спэцыяльныя (цэлёвэ), а таксама на куплю зямлі ці на сплаты пры парцэляцыі. Таксама маюць быць перагледжаны даўгі малазямельных, што задоўжыліся купляючы зямлю з прыватнай парцэляцыі. Агульная рэформа, паводле тае-ж самае заявы, мела-бісьці ў тым кірунку, каб памагчы задоўжанаму малазямельнаму сялянству; задоўжаныя-ж двары, як „гаспадарчыя трупы“, маюцца быць распарцэляваны паміж сялянамі...

На словах то ўсё гэта выглядае і не найгорш. Толькі бяда ў тым, што ад словаў да чыну яшчэ надта далёка, тымбольш, што гэткіх і ім падобных песьняў ад польскіх адказных палітыкаў сялянства чула ўжо шмат і шмат, а палажэньне ад гэтага ня толькі не папраўляецца, але наадварот, пагаршаецца. Дык ці і гэта прамова, замест стацца прадвесьнікам сапраўднай рэформы, не агранічыцца толькі абціраньнем сьлёзаў? Асабліва для мужыка беларускага, для каторага дагэтуль стала знаходзіліся нейкія „выняткі“ і ўсякія палёгкі яго „неяк“ міналі. Тымбольш, што ў рэгуляміне новай акцыі ўжо сягоньня прадбачыцца падзел тэрыторыі на такія абшары, на якіх гэты закон мае дзеіць поўнасьцю, а ёсьць і такія абшары, на каторых прадбачацца пэўныя агранічэньні. Судзячы з дагэтуляшняй практыкі можна спадзявацца, што і гэтым разам „крэсовыя“ абшарнікі знойдуць сабе моцных патронаў. А калі-б дзе нейкі іхны двор і праваліўся, дык хіба-ж не пападзецца ў рукі сялян мясцовых, але напэўна дастанецца прывозным з Польшчы калёністам.

**Нязвыклая ліцытацыя.** У канцы м-ца ліпня с. г. у Акружным Судзе ў Лідзе былі прададзены з ліцытацыі за падаткі двары графа Тамаша Замойскага. Абшар зьліцытаваных двароў, паложаных у Лідзкім і Валожынскім паветах, выносіць 7.403 га; да гэта-

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Bielaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

га 160 з лішнім пamешкальных і гаспадарскіх будынкаў. І ўсё гэта пайшло „з малатка“ за 425.000 (чатырыста дваццаць пяць тысяч) зл. або па 56 зл. і 60 грашоў за гэктар. — Гэта ліцытацыя моцна ўскалыхнула грамадзкую думку; не таму, што гэтай зямельнай уласнасьцяй перастаў уладаць вялікі магнат, а таму, што вялізарныя гэтыя абшары усёроўна мінулі сялян, каторыя на гэтай зямлі працавалі і працуюць і перайшлі толькі з рук магната польскага ў рукі магнатэрыі жыдоўскай: спадчыну графа Замойскага адкупіла з ліцытацыі фірма Горацы Гэллер, прамыслова-гандлёвае Т-ва ў Варшаве. І гэта тады, калі вёска наша проста задыхаецца ад зямельнага голаду. Нешта тут а не ў парадку.

**Зьезд у справе лёну** ў м. Глыбокім адбыўся дня 19 жніўня сёлета. Учасьнікі зьезду радзіліся аб тым, як падняць гадоўлю лёну і як сарганізаваць ягоны збыт. Між іншым было пастаноўлена зьвярнуцца ў Земляробскі Банк („Рольны“), каб той сфінансаваў збыт лёну з сёлетняга ўраджаю.

Цукар і соль танеюць. Ад 1 верасьня цана на цукар абніжана на 15 грашоў на кілё, такшто 1 кілё цукру мае каштаваць 1 зл. 30 гр. У найбліжэйшым часе таксама мае патанець і шэрая соль. Гэта абніжка прыходзіць здаецца ўжо аднак па пары, бо сяляне нашы ў большасьці сваёй забыліся ўжо які смак цукру, а соль? — з усіх бакоў нашага краю маем весткі, што сяляне, ня могучы дакупіцца солі чалавечай, навучыліся адчышчаць для людзкога спажыцьця соль быдлячую і ёй абхадзіцца. Ясна, што пры гэткіх умовах спажыцьцё цукру і солі мусіла абніжыцца, а тым самым мусілі абніжыцца і даходы казённага манаполю. Абніжэньнем цэнаў на цукар і соль манаполь спадзяецца цяпер, што прыцягне больш спажыўцоў, а тымсамым пабольшыць і свае даходы. Ня будзем выпярэджваць фактаў, але нам здаецца, што і гэтыя цэны для згалеўшай вёскі усё роўна не па сіле. Коштам ападатканьня прадуктаў першай патрэбы для вёскі сягоньня манаполь не збагацее, напэўна не.

Зьніжка цаны на карасіну. Газэты падаюць, што ад 1-га верасьня пастаноўлена абніжыць цану на карасіну ў гурце на 20—25 проц. На гэту абніжку зложыліся: згода казны зьменшыць скарбовы падатак і згода чыгункі абніжыць кошты перавозу. Наступным заданьнем ёсьць дапільнаваць, каб гэта абніжка не асталася ў кішэнях крамнікаў, але коб дайшла і да самых спажыўцоў, дл я каторых яна прнзначана.

Будзем мець узноў магазыны? Справа магазынаў на збожжа, аб якіх мы пісалі ў № 5 „Самапомачы,“ штораз больш і часьцей цікавіць людзей з таго ці іншага боку. Апрача таго, што такі магазын мог-бы служыць як мейсца складу збожжа празначанага на продаж, паказваюць, што мог-бы ён служыць і як рэзэрва (запас) з гадоў ураджайных, на гады менш ураджайныя, а то і проста галодныя. Словам, усё больш праўдападобным здаецца, што магазына вернуцца.

117 Законаў і распараджэньняў было выдана за апошні час у Нямеччыне ў справе помачы земляробам у сучасным гаспадарчым крызысе. А направа усё роўна ня прыходзіць —Сьведчыць гэта з аднаго боку, што самымі толькі законамі ніякай помачы даць ня можна; з другога ўзноў боку паказвае гэта, з якой ўпартасьцяй ідуць Немцы да свае мэты: не ўдаецца адно — хапаюцца за другое, але рук не апускаюць, ідуць напераd усьцяж. Да гэткіх толькі людзей сягоньня можа сьвет належыць.

Грошы—нягрошы. Ад 30 верасьня сёлета трацяць платнічую моц у вольным абароце сярэбраныя польскія пяцізлоткі (вялікія), эмітаваныя на падставе прэзыдэнскага распараджэньня з дня 5.XI.1927 г. Ад 1-га кастрычніка сёлета і да 30 верасьня 1936 г. манэты гэтыя будзе прымаць яшчэ Польскі Банк, а па гэтым часе — ніхто больш.

## Наша пошта.

К—ва „Поўня“ у Бр. — у Вашай справе пададзём рэкурс. Толькі ня думайце, што ў гэтым ёсьць якаясь наша карысьць матэрыяльная.

К. Сьв. у Тр. — адказ Вам паслалі пісьмом.

Інж. В. Р—ку Пр.: Кнігі жаданыя Вам высланы. Таксама два пісьмы. Ці птрымалі?

Інж. М. Гавр—ко у Л.: Пісьмо ад Вас атрымалі. Просьбы аднак выканаць ня можам, бо справа зёлак у нас сарганізавана на спосаб коопэратыўны.

С. Ш. у Р. і Ядв. К—ая ў К.: Аб тым што рабіць з памідорамі, даведаецеся з сяньняшняга нумару „Самапомачы“ на бач. 83. Аб кулінарным застасаваньні памідораў — наступным разам.

Я. М—к у К. — у справе памідораў — як вышэй. З дрэўцамі паступайце так, было падана ў № 11 „Самапомачы“ летась. У справе забесьпячэньня ад мышэй будзем шукаць сродкаў і я знайдзем — паведамім. Гадаўляная вартасьць зярнят дзічак у тым, што яны маюць больш жыцьцёвай сілы, чымся сарты аслабленыя гадаваньнем у варунках штучных (шчапленьне).

Т. Б—к у К.: пісьмо атрымалі, дзякуем. Просьбы аднак споўніць ня можам, бо ня маем на гэта ніякіх фондаў.

В—к у К р.: за апісаньне падзеяў Вашай коопэратывы дзякуем Захаваем гэта для гісторыі коопэрацыі ў нашым краю.

Усім зацікаўленым Завочным Курсам Коопэрацыі: Ад м-ца кастрычніка с.г. узнаўляецца высыланьне лекцыяў Курсу. Новыя ўчасьнікі Курсу прымаюцца.

